*Беларусь часта папракаюць у адсутнасці свабоды слова. Наогул у гэтым смешна сёння папракаць са з'яўленнем інтэрнэту. Звычайна пра гэта кажуць крывадушныя людзі. Самі яны цудоўна разумеюць,што няма ў свеце абсалютнай свабоды. Той, хто не залежыць ад ураду, залежыць ад уласніка выдання, ад рэкламадаўцаў, ад капрызаў публікі, у рэшце рэшт, ад памылак, эмоцыяў і памылковых поглядаў уласных журналістаў.*

*Аляксандр Лукашэнка, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*

*Як ні дзіўна, беларускі прэзідэнт мае рацыю, калі кажа, што свабода слова ў Беларусі існуе дзякуючы інтэрнэту. Насамрэч Сетка застаецца адзінай сферай свабоднага распаўсюду інфармацыі. Але гэта ніяк не апраўдвае драконаўскіх медыйных законаў, эканамічнай дыскрымінацыі незалежных СМІ, фізічнага гвалту супраць журналістаў з боку праваахоўных органаў – тых фактаў, якія пацвярджаюць, што сітуацыя са свабодай слова ў Беларусі вельмі далёкая ад ідэальнай. Дый Байнэт застаецца адносна свабодным насуперак відавочным спробам беларускіх уладаў узяць яго пад кантроль.*

*Андрэй Аляксандраў, "Index on Censorship" («Індэкс цэнзуры»), Лондан*



# ЗМЕСТ:

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў СФЕРЫ СМІ Ў ТРАЎНІ-ЧЭРВЕНІ 2013 ГОДА

- **Набыццё законнай моцы судовым рашэннем пра прызнанне фотаальбома «Прэс-фота Беларусі 2011» экстрэмісцкімі матэрыяламі і яго знішчэнне;**
- **затрыманні і арышты журналістаў;**
- **абвінавачанні журналістаў у супрацоўніцтве з замежнымі СМІ;**
- **вынясенне пракуратурай афіцыйнага папярэджання журналісту «Радыё Свабода» за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь;**
- **заява КДБ пра спыненне крымінальнага пераследу фотажурналіста Антона Сурапіна;**
- **вяртанне ў падпісны каталог газеты «Борисовские новости».**

## РАШЭННЕ ПРА ПРЫЗНАННЕ ФОТААЛЬБОМА «ПРЭС-ФОТА БЕЛАРУСІ 2011» ЭКСТРЭМІСЦКІМІ МАТЭРЫЯЛАМІ НАБЫЛО ЗАКОННУЮ МОЦ



**24 чэрвеня** касацыйная калегія Гарадзенскага абласнога суду адмовіла фотажурналістам Юліі Дарашкевіч і Вадзіму Заміроўскаму ў задавальненні скаргі на рашэнне суду Ашмянскага раёна Гарадзенскай вобласці пра прызнанне альбома «Прэс-фота Беларусі 2011» экстрэмісцкімі матэрыяламі. Судовае рашэнне набыло законную моц.

**Фотаальбом «Прэс-фота Беларусі 2011» выдадзены па выніках конкурсу прэс-фатаграфіі Беларусі, які праводзіцца з 2010 г.; у журы конкурсу ўваходзяць вядомыя фатографы з розных краінаў. Альбом быў надрукаваны ў 2012 г. і вольна прадаваўся ў краіне. Фотаздымкі з альбома (работы фіналістаў фотаконкурсу) без негатыўных наступстваў публікаваліся ў беларускіх перыядычных выданнях і размяшчаліся ў стужках інфармацыйных агенцтваў. У лістападзе 2012 г. на беларуска-літоўскай мяжы мытнікі канфіскавалі 41 асобнік фотаальбома ў журналістаў Юліі Дарашкевіч, Аляксандра Васюковіча і Вадзіма Заміроўскага. 18 красавіка суд Ашмянскага раёна Гарадзенскай вобласці прызнаў фотаальбом «Прэс-фота Беларусі 2011» экстрэмісцкімі матэрыяламі, задаволіўшы тым самым заяву Ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі (КДБ) па Гарадзенскай вобласці. Паводле рашэння суда альбомы павінны быць знішчаныя.**

## ЗАТРЫМАННІ І АРЫШТЫ ЖУРНАЛІСТАЎ




**6 траўня** супрацоўнікі міліцыі без усялякіх на тое нагодаў затрымалі журналістаў Аляксандра Ярашэвіча і Дзмітрыя Галко. Журналісты незадоўга да затрымання здымалі вызваленне грамадскіх і палітычных актывістаў, якія адбылі адміністрацыйны арышт пасля санкцыянаванай уладамі акцыі апазіцыі «Чарнобыльскі шлях», што прайшла 26 красавіка і была прысвечана чарговай гадавіне катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. **7 траўня** суд Маскоўскага раёна г. Мінска (суддзі Яўген Хаткевіч і Таццяна Мотыль) асудзіў журналістаў на 10 і 12 сутак адміністрацыйнага арышту. Яны былі абвінавачаныя ў непадпарадкаванні законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. Сведкамі ў судзе выступалі міліцыянеры, якія затрымалі журналістаў напярэдадні.

**Самавольныя затрыманні і наступны арышт журналістаў былі праведзены па тым жа сцэнары, што і 26 красавіка, калі былі затрыманыя**

**журналісты А.Ярашэвіч і Генадзь Барбарыч. 29 красавіка яны былі асуджаныя на трое сутак адміністрацыйнага арышту нібыта за непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. Суд не звярнуў увагі на яўныя супярэчнасці ў паказаннях супрацоўнікаў міліцыі, якія не змаглі нават дакладна назваць месца затрымання журналіста. Пакольki рэпарцёры, затрыманыя ў пятніцу ўвечары, адседзелі ў ізалятары для затрыманых двое сутак да суду, яны былі вызваленыя ў панядзелак праз некалькі гадзінаў пасля вынясення судовага рашэння.**

**8 траўня** Беларуская асацыяцыя журналістаў выказала пратэст у сувязі з адвольнымі затрыманнямі і адміністрацыйнымі арыштамі журналістаў, якія выконвалі свае прафесійныя абавязкі, і звярнулася да кіраўнікоў МУС, пракуратуры, Следчага камітэта і Міністэрства юстыцыі з патрабаваннем аднавіць правы журналістаў і прыцягнуць вінаватых да адказнасці. Дзяржаўныя органы абмежаваліся адпіскамі. Суд касацыйнай інстанцыі адхіліў скаргі журналістаў. Яны збіраюцца працягнуць абскарджванне судовых пастановаў у парадку нагляду.

**16 чэрвеня** ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці затрымалі журналіста Аляксандра Сіліча падчас здымкаў у мясцовасці, дзе быў заўважаны паморак свінняў. Пасля 3 гадзінаў затрымання і складання пратаколу журналіст был адпушчаны.

**27 чэрвеня** ў Мінску каля аднога з гандлёвых цэнтраў былі затрыманыя карэспандэнт «Радыё Свабода» Ігар Карней, карэспандэнт газеты «Народная Воля» Алесь Сівы і журналістка інтэрнэт-парталу TUT.by Наталля Касцюкевіч. Журналісты былі затрыманыя разам з лідарам грамадскага аб'яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва» Анатолем Шумчанкам. Яны рыхтавалі матэрыял пра агульнанацыянальны страйк прадпрымальнікаў, прызначаны на 27 чэрвеня. Па дарозе з рынку «Ждановічы» ў ГЦ «Паркінг» машыну з журналістамі і прадпрымальнікам заблакавалі людзі ў цывільнай вопратцы. Невядомыя выцягнулі людзей з машыны, перасадзілі ў мікрааўтобус і адвезлі ва ўчастак. У Цэнтральным і Савецкім РУУС г. Мінска,

куда меркавана даставілі затрыманых, катэгарычна адмаўлялі гэта. Пратрымаўшы журналістаў каля гадзіны ў аддзяленні міліцыі Цэнтральнага раёна г. Мінска, усіх вызвалілі без складання пратаколу (А. Шумчанка быў асуджаны на 5 сутак адміністрацыйнага арышту).




## ЖУРНАЛІСТАЎ АБВІНАВАЧВАЮЦЬ У СУПРАЦОЎНІЦТВЕ З ЗАМЕЖНЫМІ СМІ

**22 траўня** ў Кастрычніцкім РУУС (раённым упраўленні ўнутраных спраў) Магілёва апыталі незалежную журналістку Аліну Скрабунову. Пытанні, якія задавалі ў РУУС А. Скрабуновай, датычыліся супрацоўніцтва з польскім тэлеканалам «Белсат». Журналістка адмовілася адказваць на іх, спаслаўшыся на арт. 27 Канстытуцыі (згодна з арт. 27 Канстітуцыі ніхто не павінен быць прымушаны даваць паказанні і тлумачэнні супраць самога сябе і блізкіх родзічаў).

**24 траўня** ў Гомельскую абласную пракуратуру выклікалі старшыню Гомельскага філіялу ГА «БАЖ» Анатоля Гатоўчыца. Нагодай для гэтага стаў тэлесюжэт, паказаны за месяц да таго тэлеканалам «Белсат», у падрыхтоўцы якога абвінавацілі А. Гатоўчыца. Журналіст патлумачыў у пракуратуры, што з'яўляецца супрацоўнікам інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН» і не мае датычэння да з'яўлення сюжэту на «Белсаце».

**30 траўня** журналістка Вольга Чайчыц атрымала пісьмовае папярэджанне ад пракуратуры Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці за супрацоўніцтва з тэлеканалам «Белсат». Папярэджанне было вынесена ў сувязі з прысутнасцю журналісткі на грамадскім абмеркаванні праекту Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка пад Смалявічамі, якое прайшло ў красавіку.

**7 чэрвеня** пракуратура Смалявіцкага раёна папярэдзіла за супрацоўніцтва з тэлеканалам «Белсат» Аляксандра Сіліча, які таксама прысутнічаў на грамадскім абмеркаванні праекту кітайска-беларускага парка.

Паводле дадзеных Беларускай асацыяцыі журналістаў, у чэрвені папярэджанне пракуратуры за супрацоўніцтва з «Белсатам» атрымаў як мінімум яшчэ адзін журналіст.

**“Белсат" з 2007 г. вяшчае з тэрыторыі Польшчы на Беларусь; аснову яго праграмаў складаюць матэрыялы, якія робяць беларускія журналісты для беларускіх грамадзянаў. З 2008 г. тэлеканал некалькі разоў безвынікова спрабаваў атрымаць дазвол на адкрыццё ў Беларусі карпункту. Журналісты, якія супрацоўнічаюць з “Белсатам”, пастаянна зазнаюць пераслед з боку беларускіх уладаў на той падставе, што заканадаўства забараняе дзейнасць у Беларусі журналістаў замежных СМІ (у тым ліку беларускіх грамадзянаў) без акрэдытацыі. Гэтае палажэнне супярэчыць арт. 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Беларуссю.**

## ПРАКУРАТУРА ВЫНЕСЛА АФІЦЦЫЙНАЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ ЖУРНАЛІСТУ «РАДЫЁ СВАБОДА» ЗА ДЫСКРЭДЫТАЦЫЮ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ


photo.bymedia.net

**8 траўня** пракуратура Мінска вынесла афіцыйнае папярэджанне журналісту «Радыё Свабода» Алегу Груздзіловічу. Нагодай для гэтага паслужылі матэрыялы Груздзіловіча пра тое, як ахоўваецца мінскае метро, напісаныя на падставе журналісцкага эксперыменту, а таксама яго кніга «Хто ўзарваў мінскае метро». Гаворка ў кнізе і журналісцкіх матэрыялах вядзецца пра выбух у мінскім метро ў красавіку 2011 г., у ажыццяўленні якога былі абвінавачаныя і прысуджаныя да смяротнага пакарання двое беларускіх грамадзянаў (прысуд прыведзены ў выкананне).

У папярэджанні, падпісаным першым намеснікам пракурора Мінска Ўладзімірам Раманоўскім, журналіста «Радыё Свабода» абвінавачваюць у распаўсюдзе неаб’ектыўнай свядома скажонай інфармацыі пра Беларусь і ў тым, што ў сваёй кнізе ён *«ставіць пад*

*сумніў аб'ектыўнасць афіцыйных вынікаў расследавання крымінальнай справы па тэракце ў мінскім метро, а таксама справядлівасць беларускай судовай сістэмы ў цэлым».*

## КДБ ПАВЕДАМІЛА ПРА СПЫНЕННЕ КРЫМІНАЛЬНАГА ПЕРАСЛЕДУ ФОТАЖУРНАЛІСТА АНТОНА СУРАПІНА




**28 чэрвеня** агенцтва БелТА са спасылкай на першага намесніка начальніка КДБ Ігара Сяргеенка паведаміла пра завяршэнне расследавання крымінальнай справы па «плюшавым дэсанце», адным з фігурантаў якой выступаў фотажурналіст Антон Сурапін.

**29 чэрвеня** кіраўнік прэс-службы КДБ Артур Стрэх паведаміў агенцтву Інтэрфакс пра тое, што крымінальны пераслед А.Сурапіна «матывавана спынены».




**20-гадовы студэнт Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Сурапін першым выклаў у інтэрнэце фатаграфіі цацачных мядзведзяў з лозунгамі ў абарону свабоды слова, скінутых 4 ліпеня 2012 г. з лёгкаматорнага самалёта пасля незаконнага перасячэння ім беларуска-літоўскай мяжы (мэтай гэтай акцыі супрацоўнікі шведскай піяр-кампаніі Studio Total назвалі падтрымку свабоды слова ў Беларусі). 13 ліпеня ў кватэры Антона Сурапіна правялі вобшук, пасля чаго ён быў затрыманы. У журналіста канфіскавалі камп'ютэр і фотакамеру. А. Сурапін утрымліваўся пад вартай больш за месяц, адвакату было забаронена паведамляць не толькі пра следчыя дзеянні з удзелам журналіста, але нават пра ягоны працэсуальны статус. Толькі 7 жніўня КДБ Беларусі паведаміў, што А. Сурапіну прад'яўлена абвінавачанне ў пасобніцтве незаконнаму перасячэнню мяжы. Арышт Антона Сурапіна ўзначаліў дзясятку абсурдных арыштаў года, складзеную Amnesty International.**

**17 жніўня пасля выступленняў беларускай і міжнароднай грамадскасці ў абарону А. Сурапіна**

**ён быў вызвалены пад падпіску пра нявыезд. З моманту вызвалення з-пад варты ніякіх следчых дзеянняў з удзелам А. Сурапіна не праводзілася і ягоны працэсуальны статус быў невядомы.**

## ПРАЗ 8 ГАДОЎ НЕДЗЯРЖАЎНУЮ ГАЗЕТУ ВЯРНУЛІ Ў ПАДПІСНЫ КАТАЛОГ




З 1 чэрвеня 2013 года на рэгіянальную газету «Борисовские новости» зноў можна падпісацца ў аддзяленнях «Белпошты» Мінскай вобласці. Газета была выключана з падпісных каталогаў дзяржаўнага манапаліста «Белпошта» напярэдадні выбараў 2006 г. Адначасова была спынена рэалізацыя выдання ў розніцу кіёскамі «Саюздруку» (дзяржаўная рознічная сетка продажу перыядычных выданняў). Праблемы з рознічным продажам газеты ў кіёсках «Мінаблсаюздруку» не вырашаны дагэтуль. У асноўным выданне распаўсюджваецца праз рэдакцыйную падпіску, пры дапамозе грамадскіх распаўсюджвальнікаў і праз гандлёвую сетку прыватнікаў (крамы, рынкі). Камерцыйныя кропкі гандлю, між тым, знаходзяцца пад ціскам мясцовых уладаў.

**«Борисовские новости» – грамадска-палітычны штотыднёвік, які выходзіць накладам 6 тысяч асобнікаў. (У 1998-1999 гг. газета мела наклад 19 тысяч). Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. «Белпошта» выключыла з падпісных каталогаў на 2006 год 16 недзяржаўных выданняў, 19 газетаў згубілі магчымасць прадавацца ў кіёсках «Саюздруку». Позвы рэдакцый і чытачоў газетаў, выкінутых з падпісных каталогаў, суды адмовіліся разглядаць.**

Да сённяшняга дня застаецца актуальнай праблема з распаўсюдам праз сеткі «Белпошты» і (ці) «Саюздруку» для больш чым 10 масава-палітычных недзяржаўных газетаў (паводле падлікаў грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя журналістаў» у краіне засталося не больш за 25 друкаваных перыядычных выданняў, якія асвятляюць сацыяльна-палітычныя праблемы і не залежаць ад уладаў).

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

## КОЛЬКАСЦЬ КАРЫСТАЛЬНІКАЎ ІНТЭРНЭТУ Ў БЕЛАРУСІ ЗА ГОД ВЫРАСЛА БОЛЬШ ЧЫМ НА 22%

Напярэдадні Сусветнага дня электрасувязі і інфармацыйнай супольнасці, які адзначаецца 17 траўня, Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь (Белстат) паведаміў, што за 2012 год колькасць абанентаў сеткі інтэрнэт ў Беларусі вырасла амаль на 22,8%, передае інфармацыйнае агенцтва БелаПАН.

На пачатак года колькасць абанентаў сусветнай сеткі склала 8,4 млн., у тым ліку фізічных асобаў — 7,5 млн. Доступ да інтэрнэту мелі 97% арганізацый краіны. Паводле дадзеных выбарачнага даследавання, доля хатніх гаспадарак, якія маюць персанальныя камп'ютэры, у 2012 годзе склала 51,7%; маюць доступ да інтэрнэту — 48,3%.

Паслугамі сеткі інтэрнэт на пачатак 2013 года карысталіся 46,9% насельніцтва. Найчасцей жыхары Беларусі карысталіся інтэрнэтам дома — 42,1%, па месцы працы (вучобы) — 2,4%, у інтэрнэт-кафэ (клубе), у аддзяленнях сувязі — 0,2%, у сяброў, родзічаў — 0,3%.



Узрасла колькасць карыстальнікаў мабільным інтэрнэтам, што звязана з сур'ёзным ростам колькасці абанентаў мабільнай сувязі. Калі на пачатак 2006 года на 1000 чалавек насельніцтва прыходзілася 426 сотавых тэлефонаў, то на пачатак 2013 года іх колькасць павялічылася да 1128, што ў 2,6 раза больш. Па стане на 1 студзеня 2013 года прапускная здольнасць знешніх каналаў доступу ў інтэрнэт склала 350 Гбіт/с, павялічыўшыся за год амаль у два разы.

## FREEDOM HOUSE АДНЁС БЕЛАРУСЬ ДА «НАЙГОРШЫХ З ГОРШЫХ» КРАІНАЎ У СФЕРЫ СВАБОДЫ СМІ

Напярэдадні Сусветнага дня свабоды друку 3 траўня Міжнародная праваабарончая арганізацыя Freedom House апублікавала даклад «Свабода друку 2013».

У гэтым дакладзе арганізацыя аднесла Беларусь да васьмі «найгоршых з горшых» краінаў, у якіх «незалежныя СМІ не існуюць ці ледзьве здольныя працаваць, прэса выступае ў якасці рупара рэжыму, доступ грамадзянаў да аб'ектыўнай інфармацыі жорстка абмежаваны, нязгода падаўляецца шляхам турэмнага зняволення, катаванняў і іншых формаў рэпрэсіяў». Беларусь у рэйтынгу Freedom House займае 193 месца з 197 і суседнічае з Экватарыяльнай Гвінеяй, Эрытрэяй, Іранам, Кубай, Узбекістанам, Туркменістанам і Паўночнай Карэяй. Паводле шкалы, у якой «0» – найлепшая сітуацыя, а «100» – найгоршая, Беларусь атрымала 93 балы.

